**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№23(635)**
**7 чэрвеня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## Жыхары Прыперна бароняць ад зносу сваю бібліятэку і клуб

**Неверагодны выпадак здарыўся ў вёсцы Прыперна пад Глыбокім. Неверагодны не тое, што ў межах раёна, але і ўсёй краіны. Як некалі людзі выходзілі бараніць ад зносу цэрквы і касцёлы, то цяпер прыперане выйшлі бараніць ад зносу свой клуб і сваю бібліятэку.**
**Па ўсёй краіне штогод зачыняецца не адзін дзясятак школаў, садзікаў, бібліятэк, але ўсё адбываецца ціха, народ не рэагуе. Знeслі дык знеслі… Але вёска Прыперна стала выключэннем з гэтага шэрагу правілаў.**
*Працяг тэмы на стар. 4*


*Фота Ул. Скрабатуна*

## Працоўны дзень з панядзелка 2 ліпеня пераносіцца на суботу 30 чэрвеня

Пастанову прыняў Саўмін.
У Беларусі пераносіцца рабочы дзень з панядзелка 2 ліпеня 2012 на суботу 30 чэрвеня.
Такое рашэнне прынята пастановай Савета Міністраў ад 1 чэрвеня 2012 г. № 515, паведаміні БелТА ў прэс-службе беларускага ўрада. Гэтым дакументам дадзена права арганізацыям краіны з улікам іх спецыфікі вытворчасці (працы) пераносіць працоўны дзень у іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам.
Такім чынам будуць тры выхадныя дні: 1 ліпеня — 3 ліпеня (нядзеля — аўторак).



## СУКВЕЦЦЕ ТАЛЕНТАЎ НАРОДНЫХ

### Праграма XV Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік"

**8 чэрвеня (пятніца)**

**18. 00 – 19. 00 –** Прэс-канферэнцыя з кіраўнікамі дэлегацый, членамі аргкамітэта, журы.
Зала пасяджэнняў Пастаўскага райвыканкама.

**20. 00 – 21. 30 –** урачыстае адкрыццё фестывалю з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча.
*Плошча імя Леніна.*

**21. 30 – 22. 30 –** Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча.
*Плошча імя Леніна.*

**22. 30 – 24. 00 –** Музычна-тэатралізаванае прадстаўленне "Пастаўскі баль" з удзелам ансамбля песні, музыкі і танца "Талака".
*Плошча імя Леніна.*

**24. 00 –** Святочны феерверк.

**9 чэрвеня (субота)**

**10. 00 – 11. 00 –** Творчая лабараторыя, майстар-клас ігры на гармоніку (Собаль А. А.) і дыятанічных цымбалах (Мацкевіч В. І. ).
*Дзіцячая школа мастацтваў.*

**10. 00 – 10. 30 –** Урачыстае мерапрыемства, прысвечанае прысваенню Пастаўскай дзіцячай школе мастацтваў імя Антонія Тызенгаўза.
*Дзіцячая школа мастацтваў.*

**10. 00 – 12. 00 -** Міжнародны інвестыцыйны форум.
*Палац культуры па вул. Станкевіча.*

**11. 00 – 16. 00 –** "Горад майстроў" з удзелам народных майстроў Віцебскай вобласці.
*Плошча імя Леніна.*

**11. 00 – 14. 00 –** Агляд-конкурс мастацкай самадзейнасці "Кніжны фэст", прысвечаны Году кнігі з удзелам навучальных устаноў горада.
*Плошча імя Леніна.*

**11. 00 – 16. 00 –** Кніжны кірмаш.
*Плошча імя Леніна.*

**11. 30 – 14. 30 –** Традыцыйны конкурс калектываў і асобных выканаўцаў на народных інструментах "Хто каго?".
*Палац культуры па вул. Станкевіча.*

**17. 00 – 18. 00 –** Тэатралізаванае прадстаўленне "Музыка беларускіх палацаў і сядзіб".
*Усходні фасад Палаца Тызенгаўза.*

**20. 00 – 21. 30 –** Канцэрт "Званы над Мядзелкай" з удзелам ансамбля званароў пад кіраўніцтвам Б. Бярозкіна і Нацыянальнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча.
*Плошча імя Леніна.*

**21. 30 – 23. 00 –** Выступленне Дзяржаўнага ансамбля песні, музыкі і танца Літоўскай Рэспублікі "Lietuva".
*Плошча імя Леніна.*

**23. 00 – 01. 00 –** Маладзёжна-танцавальная праграма з удзелам групы "Дразды".
*Плошча імя Леніна.*

**10 чэрвеня (нядзеля)**

**09. 00 – 10. 30 –** Канцэрт класічнай музыкі.
*Пастаўскі касцёл св. А. Падуанскага.*

**10. 00 – 15. 00 –** Выстава-продаж вырабаў народных майстроў Віцебскай вобласці.
*Гарадскі парк.*

**12. 30 – 13. 00 –** Тэатралізаванае шэсце ўдзельнікаў і гасцей фестывалю.
*Плошча імя Леніна – амфітэатр.*

**13. 00 – 15. 00 -** Заключны гала-канцэрт фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік".
*Гарадскі парк.*

***Хай таленты правяць баль, сардэчна запрашаем на наш фестываль!***
*Арганізацыйны камітэт.*

Глыбоцкі раён

# Першыя ахвяры вады

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ не паспела лета поўнасцю ўступіць у свае правы, як у розных кутках вобласці на вадаёмах з'явілася некалькі загінуўшых у вадзе, хоць масавы купальны сезон яшчэ не пачаўся.**

Вось і ў Глыбоцкім раёне 17-гадовы навучэнец пасля паспяховай здачы экзамена вырашыў пакупацца разам са сваім сябрам у адной з сажалак. Калі ён стаў ныраць, і здарылася гэта непапраўная бяда. Самае крыўднае, па дадзеных спецыялістаў, што юнакі былі цвярозыя, бо звычайна часцей гінуць людзі на падпітку. У суседнім Пастаўскім раёне з інтэрвалам меней двух сутак былі зафіксаваны падобныя жахлівыя выпадкі ў аграгарадку Навасёлкі, цэнтры знакамітай гаспадаркі. Спачатку суботнім вечарам загінуў у пажарным вадаёме каля адной з ферм маленькі хлопчык ва ўзросце 3 гады і 9 месяцаў.

У той дзень у садзіку быў выхадны, ягонай маці даярцы не было з кім хлапчо пакінуць і яна ўзяла малога з сабой на працу. Дзіця без нагляду стала гуляць на вуліцы і яго пацягнула да вады. Яшчэ не паспелі пахавацьмаленькага тапельцу, як ужо раніцай у іншым вадаёме знайшоў сваю смерць 53-гадовы вясковец. На беразе вадаёма застаўся ягоны веласіпед побач з выпітай бутэлькай віна. Па аналагічнай прычыне пасля выпіўкі ў рацэ ўтапіўся 33-гадовы жыхар Оршы, ягоны труп знайшлі ў вадзе толькі праз некалькі дзён на тэрыторыі раёна. Увогуле за апошнія 6 гадоў толькі на Віцебшчыне тапельцамі на вадзе сталі больш тысячы чалавек розных узростаў, гэта нават болей, чым загінула беларусаў падчас крывавых падзей вайны ў Афганістане…

Полацкі раён

# Акрамя турцэнтра яшчэ і інтэрнат

■ Станіслаў Раманчук

**Пасля буйных культурных мерапрыемстваў з нагоды 1150-годдзя, якія прайшлі ў Полацку, духоўнай калыcцы краіны, многія гараджане парадаваліся, што горад будзе і надалей развівацца, як нацыянальны турыстычны цэнтр.**

А вось студэнтаў мясцовага дзяржуніверсітэта найбольш парадавала, што кіраўнік Беларусі пагадзіўся з тым, што для полацкіх студэнтаў неабходна ўсё ж пабудаваць новы студэнцкі інтэрнат на 730 месцаў. Зараз у гэтым ВНУ навучаюцца болей 13 тысяч студэнтаў і многім прыходзіцца жыць на здымных кватэрах. Аднак найбольшыя пераўтварэнні пачнуцца вакол гістарычнай часткі горада, якая нібыта народзіцца нанава. Ужо вызначана, што па суседстве з гісторычна-культурным цэнтрам "Полацкі пасад" неўзабаве з'явіцца на плошчы 3 гектары буйны сучасны гандлёвы цэнтр. У гэты аб'ект адна са сталічных фірм-інвестараў гатова ўкласці 3 мільёны долараў. Яшчэ адным значным інвест-праектам стане будаўніцтва турэцкай кампаніяй на вуліцы Еўфрасінні Полацкай гатэля з забаўляльным цэнтрам, аўтамабільнай стаянкай і паркінгам. Полацку, як і іншым беларускім гарадам, цяпер адчувальна не хапае зручных і ўтульных гасцініц. Але самы вялікі аб'ём пераўтварэнняў у горадзе з тысячагадовай гісторыяй будзе ля манастыра і Сафійскага сабора. Палачане такі вопыт ужо маюць: яны раней адрадзілі да жыцця былы Езуіцкі калегіум, у карпусах якога стаў дзейнічаць універсітэт.

Аршанскі раён

# Свой мясцовы буквар

■ Чэслаў Якубовіч

**Услед за масавымі ўрачыстасцямі, якія прайшлі на Полаччыне, да падобнага свята з нагоды свайго 945-годдзя рыхтуецца яшчэ адзін са старажытных беларускіх гарадоў – Орша.**

Аршанцы асабліва ганарацца, што ў іх дагэтуль захавалася частка каштоўнейшых архітэктурных будынкаў і гісторыка-культурных помнікаў, узведзеных у XVI – XVII стагоддзях. Яны пайшлі далей за палачан і зараз у мясцовай друкарні пачалі выпуск накладам 3 тысячы экзэмпляраў рэдкай і каштоўнай каляровай кнігі "Аршанскі буквар". Яе прыдумалі мясцовыя педагогі і краязнаўцы Галіна і Сяргей Трафімавы. З новага навучальнага года мясцовыя дзеткі пачнуць знаёмства не толькі з азбукай, але і адначасова з багацейшай гісторыяй роднай зямлі. Кожнай літары настаўнікі прыдумалі і напісалі даступнай мовай важнейшыя падзеі гісторыі Аршаншчыны. З любоўю стварылі ілюстрацыі да гэтага буквара лепшыя вучні мясцовай школы мастацтваў. Прэзентацыя гэтай кнігі-падручніка адбудзецца зусім скора, у пачатку ліпеня, калі намечаны юбілейныя ўрачыстасці. У мінулым, дарэчы, у мясцовым Свята-Богаяўленскім Куцеінскім мужскім манастыры чатырыста гадоў назад упершыню таксама надрукавалі буквар для насельніцтва. Да юбілею горада аршанцы таксама вырабяць плакеткі сучаснага гарадскога герба і пано з аршанскімі гербамі розных гістарычных эпох.

# Лічба нумара

**16** на такім выніковым месцы з 18 завяршыла свае выступленні на апошнім конкурсе песні "Еўрабачанне-2012" у Баку беларуская група "Litesound". Іншая справа, што спявалі нашы хлопцы так няўдала ўсяго толькі ў паўфінале і кожны, хто глядзеў іх кампазіцыю ў прамым эфіры па тэлебачанні, быў у чарговы раз расчараваны. Сапраўды, ад іншых англамоўных спевакоў нічым гэта песня пра "Герояў" не адрознівалася, за сэрца не чапляла, не запаміналася, у выніку выйшаў зноў поўны канфуз. Вось расійскія "Буранаўскія бабулькі" ўсім запомніліся, гэта быў удалы ход і самабытны калектыў.

Справа ў тым, што нам да выхаду ў фінал было вельмі далёка, бо ззаду пакінулі толькі дзве краіны і набралі ўсяго 35 балаў. З кожным годам айчынныя выканаўцы на замежнай арэне выступаюць усё горш і горш. Адзіны раз беларусы парадавалі суайчыннікаў у далёкім ужо ад нас 2007 годзе, калі ярка выступіў Дзмітрый Калдун, прабіўся ў фінал спачатку, а потым заняў там высокае 6-е места сярод больш 40 краін-удзельніц са сваёй кампазіцыяй, нагадваючы па ходу выканання песні нейкага дзіўнага мага-чараўніка.

Але змяніўся фармат гэтага песеннага шоу, толькі 5 вялікіх краін, заснавальнікаў Еўрабачання (Англія, Іспанія, Італія, Германія і Францыя) маюць пастаянныя месцы ў фінальнай групе. Астатнія краіны павінны прабівацца ў галоўны фінал праз сіта папярэдняга адбору. І ўсе астатнія гады беларусы пралятаюць у гэтым конкурсе, аказваюцца ў ліку адстаючых, хоць штогод на падрыхтоўку на гэты фестываль трацяцца вялізныя сродкі ў валюце. І гэта ўжо паказчык таго, што і эстраднае мастацтва ў Беларусі на такім прыкладна ўзроўні, як і вялікі хакей, айчыннае кіно, у цэлым беларускі спорт і нацыянальнае мастацтва.

Гучных заяў шмат, а на выхадзе бывае сорамна за сваю краіну. Калі разабрацца, на якім узроўні ў нас шоу-бізнес, нават у параўнанні з расійскай, украінскай эстрадай, са становішчам спраў у суседніх дзяржавах. Нашы праласканыя зоркі, аказваецца, ніякія прафесіяналы ў параўнанні з заходнімі майстрамі сцэны. Іншая справа, што некаторыя прычыны правалаў бачаць быццам у палітычнай плоскасці: не прызнаюць краіну-ізгоя Беларусь заходнія буржуі.

Але паглядзім праўдзе ў вочы: вінаваты мы самі. Вось і на гэты раз у моцным па складзе другім паўфінале нашы праспявалі не зусім чыста, як адзначылі расійскія прадзюсеры, хоць у цэлым пастаноўка нумара была лепшая, чым правальныя спевы беларусаў на папярэдніх конкурсах "Еўрабачання", якія праходзілі ў Нарвегіі, Германіі, Латвіі, Турцыі, Украіне. Хто памятае, якія нашы артысты там бралі ўдзел і праваліліся? А вось нарвежскі беларус Аляксандр Рыбак са сваёй скрыпкай і мелодыяй пра каханне памятаецца дагэтуль.

Відавочна, бракуе нам прафесіяналізму, не забыўся скандал з падтасоўкай вынікаў нацыянальнага адбору, калі ў справу ўмяшаўся нават А. Лукашэнка, каб аднавіць справядлівасць і асадзіць назад лжэпераможцу Алену Ланскую з яе адміністрацыйным рэсурсам. Чамусьці раней па ўсім свеце на ўра праходзілі айчынных "Песняроў", якія спявалі беларускія народныя песні ў сучаснай апрацоўцы так здорава, што кранілі за сэрца і амерыканцаў, і французаў. Як ні круці, але мала ў нас стала прафесіяналаў, каб знайсці таленавітых артыстаў альбо ансамбль і музычную групу, якія б спадабаліся тэлеглядачам з розных еўрапейскіх краін.

Калі і надалей будзем пасылаць туды такіх спевакоў, як апошнім часам, то нічога не зменіцца. Наша краіна – даволі закрытая для астатняга свету, тая ж культура пад пэўным ідэалагічным прэсам, даводзяцца планы выступленняў і нормы канцэртаў для артыстаў. Няма свабоды творчасці, яшчэ не навучыліся мы сучаснаму менеджменту на эстрадзе, сістэме раскруткі талентаў праз СМІ Еўропы, той жа Інтэрнэт, бо і грошай, як заўсёды, не хапае. А той жа "Славянскі базар у Віцебску" пры ўсёй пампезнасці – гэта фестываль адных і тых жа расійскіх зорак шоу-бізнеса, якія прыязджаюць да нас зарабіць "капусты".

У наступным годзе песенны фестываль "Еўрабачання" пройдзе ў Швецыі, прадстаўніца якой Ларын не толькі перамагла больш, чым пераканаўча, але і адкрыта пакрытыкавала азербайджанскія ўлады за парушэнні правоў чалавека і за тое, што для гэтага конкурсу выселілі і разбурылі цэлую вёску ў прыгарадзе Баку. Можа, хоць туды, у Скандынавію, дадумаемся мы прывезці яркага выканаўцу альбо сапраўдны беларускі калектыў, які запомніцца ўсім і раскрые наш нацыянальны характар, шчырасць і багацці беларускай душы. Інакш і наступны "Еўрафэст" не прынясе беларусам нічога, акрамя засмучэння і горычы.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 07.06.12 | | | | Пятніца 08.06.12 | | | | Субота 09.06.12 | | | | Нядзеля 10.06.12 | | | | Пнд.11.06.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +14 | +16 | +14 | +9 | +14 | +18 | +16 | +9 | +15 | +20 | +19 | +13 | +17 | +22 | +20 | +17 | +21 | +22 |
| Ціск | 742 | 743 | 742 | 742 | 742 | 743 | 743 | 744 | 745 | 746 | 745 | 745 | 746 | 747 | 746 | 743 | 739 | 737 | 737 |
| Вільготнасць | 96 | 76 | 67 | 79 | 92 | 68 | 58 | 78 | 99 | 73 | 73 | 90 | 100 | 83 | 63 | 76 | 100 | 95 | 78 |
| Вецер м/сек | 4 | 5 | 4 | 2 | 2 | 3 | 3 | 1 | 1 | 3 | 4 | 3 | 2 | 3 | 4 | 5 | 4 | 2 | 5 |

## Дзень за днём

**Спажывецкія цэны ў Беларусі ў маі толькі за два тыдні выраслі яшчэ на 0,9 %. У асобных айчынных ВНУ сёлета можа быць недабор студэнтаў, бо ў конкурсе не змогуць удзельнічаць тыя, хто атрымае на тэсціраванні 7 балаў. Не раней 21 чэрвеня будзе нарэшце запушчаны першы беларускі касмічны спутнік.**

**Хоць усё болей беларусаў выязджаюць на заработкі на Усход, за год яны прыслалі з Расіі дамоў грашовых пераводаў на 458 млн. долараў, калі ўкраінцы на 3,1 мільярды. Беларускіх курыльшчыкаў зноў засмуціла падаражанне цыгарэт на 2-50 %, а кураць у нас палова мужчын.**

# Важнейшыя навіны свету

**Украіна.** Як заявіў прэзідэнт В. Януковіч, краіна гатова прадаставіць НАТА сваю стратэгічную транспартную авіяцыю для завяршэння ваеннай аперацыі ў Афганістане.

**Лівія.** У сваім доме ва ўзросце 59 гадоў памёр ад раку Аль Меграхі, асноўны арганізатар паветранага тэракту над Локербі, у якім загінула ў самалёце над Шатландыяй 270 чалавек.

**Расія.** У структуру чарговага, 12-га па ліку ўрада РФ ўвайшлі адразу 12 новых міністраў і 2 новыя віцэ-прэм'еры, іх прызначэнне прайшло па традыцыі ў рэжыме сакрэтнасці.

**Сербія.** Неспадзявана для ўсіх былы нацыяналіст Таміслаў Нікаліч выйграў прэзідэнцкія выбары і пацвердзіў, што не зменіцца курс яго краіны на ўступленне ў Еўрасаюз.

**Турцыя.** Да радасці многіх туркаў карэйскі аўтагігант Hyundai вырашыў тут у 2 разы павялічыць аб'ёмы выпуску папулярных гарадскіх аўто да 200 тысяч машын у год.

**Літва.** Глава МЗС А. Ажубаліс заявіў, што кіраўніцтва суседняй Беларусі крок за крокам прадае незалежнасць сваёй краіны, бо не ў стане самастойна аплаціць набраныя крэдыты.

**Албанія.** У краіне аб'явілі жалобу, калі сарваўся з горнага абрыву аўтобус з 50 студэнтамі, з іх адразу загінулі 11 дзяўчат і вадзіцель, яшчэ 25 чалавек атрымалі цяжкія траўмы.

**Японія.** У Токіа адкрылі для ўсіх жадаючых пляцоўкі агляду на самай высокай у свеце тэлевежы вышынёй 634 метры, да канца года яе наведаюць 32 мільёна чалавек.

**Польшча.** Пасольства Беларусі ў Варшаве "рашуча асудзіла" тэлефільм аб узрыве ў Мінскім метро вясной 2011 года, які зняў і паказаў папулярны польскі тэлеканал TVN.

**ЗША.** Адзін з багацейшых людзей свету, заснавальнік сацсеткі Facebook 28-гадовы Марк Цукерберг ажаніўся на настаўніцы Прыцылле Чан, з ёй пазнаёміўся студэнтам 9 год назад.

**Канада.** Трэці раз у гісторыі невядомы самазабойца выжыў, калі скокнуў з вышыні 53 метраў у бездань Ніягарскага вадаспада. Яго выратавалі з ледзяной вады праз 30 хвілін.

**Германія.** Былы камандзір армейскага спецназа РБ У. Барадач заявіў, што экс-главу Міністэрства ўнутраных спраў РБ генерала Ю. Захаранку пасля расстрэлу спалілі, а потым спалілі і таго, хто гэта зрабіў.

**Казахстан.** Па дамоўленасці з Беларускай чыгункай адкрыты новы пасажырскі цягнік па маршруце Алматы-Мінск з 14 вагонаў, шлях у дарозе ў адзін бок займае каля 4-х сутак.

**Туркменістан.** Расію абурыла, што ў краіне адмовіліся ад назвы "Вялікая Айчынная" на новую "вайна 1941-1945 гадоў", у ёй, па афіцыйнай версіі, загінула каля 700 тыс. туркмен.

**Азербайджан.** За невыносную спёку камісія МАК забракавала заяўку сталіцы Баку за права правесці летнюю Алімпіяду-2020, за гэта змагаюцца Токіа, Мадрыд і Стамбул.

# З 1 чэрвеня даражэюць жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва



■ БелаПАН

**У Беларусі 1 чэрвеня даражэюць жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва. Такое рашэнне ўтрымліваецца ў пастанове Савета міністраў ад 28 мая № 486 «Аб унясенні змяненняў у пастанову Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 4 лютага 2011 года № 138», паведамляецца на сайце ўрада.**

Адзначаецца, што дакумент прыняты для паэтапнага павышэння ўзроўню пакрыцця насельніцтвам затрат на аказанне жыллёва-камунальных паслуг. Паводле пастановы, плацяжы сям'і з трох чалавек, якая пражывае ў тыпавой двухпакаёвай кватэры агульнай плошчай 48 кв. м, з улікам ацяплення ўзрастуць на 17 тыс. рублёў, ці на 8,6%, у тым ліку на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння — на 10 тыс., на паслугі водазабеспячэння і каналізацыі — на 7 тыс.

Тарыфы для насельніцтва на паслугі водазабеспячэння і каналізацыі не пераглядаліся з лютага 2011 года. Такім чынам, кошт жыллёва-камунальных паслуг для сям'і з трох чалавек, якая пражывае ў тыпавой двухпакаёвай кватэры агульнай плошчай 48 кв. м, у ацяпляльны перыяд складзе 216,4 тыс., у летні перыяд — 137,9 тыс. рублёў.

Разлікамі да закона «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2012 год» прадугледжваецца, што за кошт плацяжоў насельніцтва павінна пакрывацца 35% расходаў на аказаннежыллёва-камунальных паслуг арганізацыямі сістэмы Мінжылкамгасу. Цяпер узровень пакрыцця расходаў складае менш як 13%.

Ваўрадзеадзначаюць, што для павышэння акупнасці жыллёва-камунальных паслуг у краіне прымаюцца меры па зніжэнні сабекошту паслуг. Так, па выніках працы за першы квартал гэтага года затраты на аказанне ЖКП насельніцтву ў цэлым зніжаныя на 10,5% у супастаўных умовах у параўнанні з аналагічным перыядам 2011 года пры ўстаноўленым заданні не менш як на 10%. Эканомія расходаў склала 101,5 млрд. рублёў. «Разам з тым ва ўмовах росту расходаў на аказанне жыллёва-камунальных паслуг па аб'ектыўных прычынах забяспечыць выкананне ўстаноўленага параметра па ўзроўні пакрыцця расходаў насельніцтвам толькі за кошт зніжэння сабекошту паслуг не ўяўляецца магчымым», — гаворыцца ў паведамленні на сайце ўрада.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Жабінка.** Паблізу вёскі Ходасы ў ДТЗ трагічна загінуў 31-гадовы старшы следчы Бярозаўскага райаддзела Следчага камітэта РБ, на яго зрабіў наезд 41-гадовы матацыкліст.

**Мінск.** Праваабарончая арганізацыя "Міжнародная амністыя" назвала Беларусь "апошнім палачом" у Еўропе, бо на фоне эканамічных цяжкасцей сталі болей цiснуць на людзей.

**Баранавічы.** Фільм 47-гадовага ўраджэнца горада Сяргея Лазніцы "У тумане" на Канскім фестывалі атрымаў спецыяльны прыз міжнароднай федэрацыі кінакрытыкаў FIPRESCI.

**Мазыр.** Суд у Мінску задаволіў іск работніцы мясцовага НПЗ да апазіцыянера Віктара Івашкевіча за заклік да ЕС увесці санкцыі да РБ, ён аштрафаваны на 0,5 млн. рублёў.

**Брэст.** У ДЮСШ № 2 прайшла грамадская паніхіда развітання з майстрам спорту, 21-гадовай веласіпедысткай Палінай Жук, яна на турніры ў РФ памерла ад падзення на трэк.

**Мінск.** Калектыў піўзавода "Аліварыя" даведаўся, што іх былы рабочы-грузчык, цяпер 40-гадовы долараваы мільярдэр Міхаіл Абызаў стаў новым міністрам расійскага ўрада.

**Бабруйск.** У адным з гаражоў аператыўнікі Следчага камітэта раскрылі падпольную лабараторыю па вытворчасці забароненага наркатычнага псіхатропнага рэчыва.

**Гродна.** Некалькі гадоў турмы можа атрымаць 35-гадовая медсястра Радунскай гарбальніцы, якая прама ў бальніцы скрала грошы на чорны дзень ў пажылой хворай.

**Слуцк.** У школах раёна і Міншчыны стаў абмяркоўвацца гучны скандал, бо двух 10-класнікаў затрымалі і абвінавачваюць у згвалтаванні ў лазні двух малодшых школьнікаў.

**Барысаў.** На працягу 3-х гадоў ваенны юрыст падмануў 54 сям'і з мясцовага ваеннага гарадка, за фіктыўную прыватызацыю іх жылля прысвоіў болей 173 млн. рублёў.

**Шчучын.** На трасе з Гродна на Мінск зляцеў у кювет на мокрым асфальце на высокай хуткасці джып коштам 80 тысяч долараў з 4-мя беларускімі студэнтамі, з іх адзін быў паранены.

**Жлобін.** Раённы суд пакараў 2 гадамі папраўчых работ 42-гадовую маці 4-х дзяцей, якая зімой парадзіла, а затым задушыла на падпітку па неасцярожнасці дачку пры кармленні.

**Навагрудак.** Пакуль улады спрабавалі прадаць з аўкцыёна радавы маёнтак О'Рурклаў, бамжы спалілі гэты гістарычны драўляны будынак, помнік сядзібнай архітэктуры.

**Нарач.** Раніцай у курортным пасёлку ад трактара на дарозе адчапіўся прыцэп і на сустрэчнай паласе пратараніў аўтобус санаторыя, вадзіцель і 5 яго работнікаў паранены.

**Гродна.** Улады не дазволілі палякам правесці пікеты ў горадзе супраць магчымага з'яўлення рускамоўных класаў у польскай СШ № 36, пабудаванай за сродкі Польшчы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Полацк.** Падчас урачыстасцей 1150-годдзя з дня першага ўпамінання горада ў летапісах, якія працягваліся 4 дні, у першай сталіцы краіны накрылі святочны стол у 2 кіламетры.

**Віцебск.** Пасля рэканструкцыі коштам 42,5 млрд. рублёў у абласным цэнтры ўрачыста адкрылі цэнтральную дзіцячую паліклініку для абслугоўвання 74 тысяч дзяцей.

**Шаркаўшчына.** На пасяджэнні прэзідыума ўрада Беларусі раён разам з Шумілінскім вострa крытыкаваўся за слабую гатоўнасць кормаздабываючай тэхнікі да ўборкі траў.

**Глыбокае.** У райцэнтры ўрэзаўся на Subaru у жылы дом 62-гадовы масквіч за рулём, калі ў яго іншамаркі лопнула пярэдняе кола, ніхто з людзей у ДТЗ не пацярпеў акрамя плоту.

**Гарадок.** Пасля ўвядзення забароны на продаж пладова-ягадных він у раёне рэзка ўзрасла рэалізацыя гарэлкі, таннага адэкалону, за "чарнілам" многія ездзяць у суседнія рэгіёны.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала групу з 6 чалавек, якія на чале з экс-начальнікам участка камбіната хлебапрадуктаў у Гарадку за год скралі амаль 30 тон зерня на продаж у Расію.

**Дуброўна.** Жыхары шматкватэрнага дома № 42 па вуліцы Вакзальнай зрабілі свой двор сапраўдным прыгожым экзатычным паркам з … адыходаў розных пластмасавых бутэлек.

**Полацк.** У мікраёне Громы на павароце малады хлопец не справіўся з кіраваннем аўто, на хуткасці ўрэзаўся ў дрэва, збіў ліхтарны слуп, ён і пасажыр атрымалі цяжкія раненні.

**Віцебск.** Са следчага ізалятара № 2 асуджанага за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга С. Каваленку зноў этапіравалі ў Магілёўскую калонію, ён аднавіў галадоўку пратэсту.

**Мёры.** За незаконную здабычу двух дзікіх кабаноў суд пакараў жыхара райцэнтра агульным штрафам у суме 11,2 млн. рублёў, у яго канфіскавалі і паляўнічую стрэльбу.

**Докшыцы.** Двое старшакласнікаў з райцэнтра Д. Стральцоў і М. Вінкоў, якія захапляюцца тэхнічнай творчасцю, зрабілі газонакасілку на базе дзіцячай каслкі і спецыяльнага нажа.

**Паставы.** Удзельнікі першага пленера каменячосаў на базе ТАА "Пасткамень" вырабілі да Міжнароднага фестывалю народнай музыкі 3 скульптурныя кампазіцыі з каменяў.

**Віцебск.** Сезон флэшмобаў адкрыўся тут новай акцыяй – Дзень пацалункаў на плошчы Перамогі, з паўсотні заканаханых пар самы доўгі ў іх доўжыўся каля двух гадзін.

**Глыбокае.** Да Дня беларускага пісьменства ў цэнтры горада ўслед за двума новымі кіёскамі "Белсаюздруку" адкрыўся першы аб'ект – новы прыгожы кніжны магазін.

**Браслаў.** Трэці год запар на шасці дарогах раёна прайшлі міжнародныя спаборніцтвы па ралійных гонках "Славянскі кубак" з удзелам 41 экіпажа аўтамабіляў з 5 краін Еўропы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Жыхары Прыперна бароняць ад зносу сваю бібліятэку і клуб

**Заканчэнне.**
*Пачатак на стар.1*

■ **Уладзімір Скрабатун**


*Фота Ул. Скрабатуна*

## Мы апынуліся ў гушчары падзеяў

У панядзелак 4 чэрвеня аўтару гэтых радкоў патэлефанавала жанчына і ледзьве не са слязмі на вачах, кажа: «Прыедзьце, калі ласка, у Прыперна! Разбураюць нашу бібліятэку і клуб! Памажыце, чым можаце, каб ўратаваць хоць тое, апошняе, што засталося ў нашай вёсцы!»

Мы прыехалі… Перад бібліятэкайстаялідзясяткітры людзей: мясцовых жыхароў і работнікаў, якія прыехалі з Глыбокага разбіраць будынак, супрацоўнікі бібліятэкі, участковы міліцыянт, супрацоўнікі сельсавета.

– Што за праблема здарылася ў Вас?– пытае аўтар гэтых радкоў у загадчыцы прыпярнянскай бібліятэкі Зіты Галісаўны Шымко.

## У Год кігі рабураюць бібліятэку!

– У суботу была камісія, прыязджала начальства з Глыбокага. Агледзілі памяшканне клуба, бібліятэкі і з'ехалі. Ніякай згадкі пра тое, што бібліятэку і клуб, якія месцяцца ў адным будынку, будуць зносіць, не было. І раптам, праз дзень, як гром сярод яснага неба, тэлефануе маё начальства з Глыбокага: «Бібліятэку і клуб будуць зносіць. Збірайце, пакуйце кнігі. Будзем вывозіць бібліятэку!»

А тут ужо і рабочыя прыехалі з Глыбокага, пачалі здзіраць шалёўку, вымаць вокны.

На падставе чаго гэта робіцца? Нам ніхто не паказаў ніякага дакумента – рашэння ці пастановы райвыканкама. Ды яго й не можа быць! Два дні выхадных! Хто й калі прымаў такое рашэнне аб зносе будынка? Няхай гэты дакумент нам пакажуць.

– Паўсюдна чуеш: па радыё, тэлебачанні, чытаеш у газетах, што наш Прэзідэнт абвесціў гэты год Годам кнігі, што трэба рамантаваць бібліятэкі!– умешваецца ў размову маладая жанчына,– а тут, наадварот прыехалі разбураць!

## Тут быў агмень культуры!

– У нашай бібліятэцы захоўвалася не мала розных дакументаў аб гісторыі Прыперна і ваколіцаў,– працягвае далей Зіта Галісаўна. Мы збіралі выразкі з газетаў і з «Вольнага Глыбокага» таксама. Школьнікі запісвалі ўспаміны нашых старажылаў, пісалі матэрыялы і нашыя мясцовыя краязнаўцы. Цяпер ужо гэта нікому не будзе даступна, бо няма дзе захоўваць. Ды й зрэшты, папку з нашымі матэрыяламі забраў адзін начальнік з Глыбокага.

Бібліятэка была тым месцам, куды вельмі ахвотна прыходзілі вяскоўцы: пенсіянеры, сталыя людзі і моладзь, найперш школьнікі. Цяпер у Прыперным і такога месца не будзе!

## Пазіцыя начальства

Прыпернянскі клуб і бібліятэка знаходзяцца ў аварыйным стане. Крый, Божа, пачне будынак абвальвацца ды хтосьці загіне! Хто панясе адказнасць? Прыдзецца адказваць на пытанне: «Чаму ўлада загадзя не прадпрыняла ніякіх мераў?»

Аднак будынак можна адрамантаваць? Начальства кажа, што па краіне штогод зачыняюцца дзясяткі школаў, садзікаў, бібліятэк, бо дзяржава не ў стане ўтрымліваць гэтыя будынкі ў належным стане ў малых населеных пунктах з-за недахопу фінансавых сродкаў. То ў гэтым выпадку лепш знясці аварыйны будынак, бо няма будынка, няма й праблемаў.

Логіка начальства зразумелая!

## А што ў замен?

Начальства лічыць, што заменай знесенай прыпернянскай бібліятэкі і клуба, якія знаходзяцца ў адным суцэльным будынку, павінна стаць шуневічская бібіліятэка і клуб. А для вельмі пільных патрэбаў – раз на месяц (мо й часцей) будзе прыязджаць бібліёбус з кнігамі. Накшталт аўталаўкі, але не з таварам, а з кнігамі.

## Пазіцыя вяскоўцаў

– Зачынілі некалі прыпярнянскую школу, заўважым, пасля капрамонту, ды ссунулі бульдозерам,– эмацыйна, у адзін голас кажуць жыхары вёскі. Дзяцей адправілі вучыцца ў Шуневічы, за тры кіламетры ад Прыперна. А ці павязе дзяцей у школу аўтобус ды ў люты мароз – яшчэ пытанне. Ліквідавалі дзіцячы садок. Як тут нараджаць і куды потым дзіцяці дашкольнага ўзросту дзяваць? А лямантуюць жа скрозь, што беларусы выміраюць. І вымруць, калі так сітуацыя будзе і надалей доўжыцца.

Да Дня пісьменства і друку загадалі знясці ўсе хлявы, якія кідаюцца з дарогі ў вочы,– тлумачыць адна спадарыня. Знялі! І што цяпер? Хутчэй за ўсё ўзімку наш магазін працаваць не будзе, бо куды класці паліва, калі «хлеў» знялі, дзе паліва тое павінна захоўвацца. Яшчэ туалет застаўся каля магазіна, забыліся знясці! Знясуць, бо кідаецца ў вочы з дарогі!

Цяпер накінуліся бурыць апошняе, што ў нас засталося! Бібліятэку і клуб! Частка будынка, дзе знаходзіцца бібліятэка – у выдатным стане. У клубе падгніла сцяна, бо зацякаў дах. Спарахнела. Але ж гэтыя бярвенні можна выпілаваць і паставіць новыя,– кажуць жанчыны.

## Прыперна – адзін са «спальных раёнаў» Глыбокага

– У нас тут бойкі рух на дарозе Глыбокае-Мінск! Як і ў самім Глыбокім! Бывае, нават цяжка і на другі бок дарогі перайсці,– кажа адзін спадар сталага веку. Хаты ў нас не пустуюць. Калі раптам такое здараецца, то яе неўзабаве купляюць глыбачане, найперш маладыя сем'і. У многіх такіх сем'ях – па двое дзяцей. Працуюць у Глыбокім, бо зусім жа блізка ад горада! А тут яны бібліятэку і клуб сабраліся бурыць! Куды потым падацца школьнікам, пенсіянерам, сталым людзям? А моладзі? Застаецца толькі піва піць ды курыць цыгарэты!

## Прыперна не хоча паўтарыць лёс Сарок!

У сярэдзіне XIX ст. Сарокі лічыліся не вёскай, а сялом. Так запісана ў розных энцыклапедычных даведніках, як, напрыклад, у «Слоўніку геаграфічным Каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх». Бо тут знаходзілася паштовая станцыя, якая абслугоўвала і Глыбокае, была праваслаўная царква, і адбываўся штогадовы фэст. У Сароках існаваў панскі двор Рудамінаў.

Што адбылося з Сарокамі? Паштовая станцыя «перакачавала» ў мястэчка Глыбокае, царкву ў 1960-ыя гг знялі саветы, драўляны панскі палацык разабралі і вывезлі ў Прыперна. З яго бярвенняў і пабудавалі прыпярнянскі клуб і бібліятэку, што добра бачна цяпер, калі рабочыя пачалі здзіраць шалёўку. Краі будынка зробленыя на «нямецкі вугал».

Ну й дзе тыя Сарокі цяпер, калі з іх усё забралі, знішчылі, вывезлі? Засталіся лічаныя тубыльцы! А было ж некалі сялом…

## Няма дакумента на знос – бурыць не дадзім!

На запрашэнне прыпераняў, для развязання канфлікту прыехаў дэпутат раённага савета Міхаіл Пятровіч Чарапкоўскі.

Адбылася гутарка жыхароў вёскі і дэпутата па гэтай выбарчай акрузе. Вяскоўцы настойліва патрабавалі ў Міхаіла Пятровіча прывезці з Глыбокага паперы, дзе напісана абгрунтаванне законнага зносу будынка бібліятэкі і клуба. І нагадалі яму, што ён у сваёй перадвыбарчай праграме абяцаў як раз гэты будынак адрамантаваць. Дэпутат паабяцаў выканаць просьбу жыхароў вёскі і паехаў у Глыбокае за дакументамі.

Па праўдзе кажучы, аўтар гэтых радкоў, назіраючы дадзеную сітуацыю, нечакана прыйшоў да высновы, што не зусім ужо і зайздросная роля ва ўсіх народных выбраннікаў (і тут – без персаналіяў). Кандыдат, можа, й шчыра ў сваёй выбарчай праграме хацеў бы дапамагчы канкрэтнай вёсцы, але ёсць і людзі вышэй, якія прымаюць іншыя адрозныя рашэнні.

## Што мы зрабілі са свайго боку?

Жыхары Прыперна прасілі нас аб дапамозе... Зразумела, што магчымасці нашай газеты як мясцовага (лакальнага) выдання не такія ўжо й вялікія. Праўда, газету можа пачытае і сам Прэзідэнт, бо адзін (мо й болей) асобнік паступае ў Адміністрацыю Прэзідэнта РБ.

Але з нашай падачы аб праблеме Прыперна даведалася ўся Беларусь. Матэрыялы па гэтай тэме размешчаныя на розных сайтах, напрыклад:
http://charter97.org/ru/news/2012/6/4/53298/comments/
http://www.svaboda.org/content/article/24603134.html
http://spring96.org/be/news/52976
http://westki.info/artykuly/13301/hod-knihi-u-prypiernym-razburaiuc-bibliiateku-i-klub
http://euroradio.fm/report/na-glybochchyne-w-god-knigi-nishchats-bibliyateku-fota-109355

Магчыма, гэта і дапаможа жыхарам Прыперна абараніць сваю бібліятэку і клуб ад зносу.

## А перспектыва?

Прыперна – не тая вёска, што вымірае. У яе ёсць перспектыва! Блізкасць ад райцэнтра дае ёй вялікі шанец выжыць. Можна пражываць у вёсцы, дзе жыллё танней, а працаваць у горадзе. Ды й дачнікамі Прыперна будзе запатрабаванае.

Вось бы Прыпернаму чымсьці дапамагчы! Пабудаваць пару вуліц тыпу «аграгарадок», як у недалёкім Порплішчы. На рацэ Аржаніцы (на правы бок маста, як ехаць з Глыбокага) можна праз паўкіламетра паставіць плаціну і ўтварыць вадасховішча. Рэльеф дазваляе. І будзе Прыперна прывабным і запатрабаваным! Глядзіш, з'явяцца тут прыватныя кавярні і крамы. Ну й, зразумела, што ўжо ніхто не паквапіцца бурыць бібліятэку і клуб.

# Прагама Будслаўскага Фэсту

**Як паведамлялася раней, з гэтага года галоўныя ўрачыстасці ў Нацыянальным санктуарыі ў Будславе будуць адзначацца не 2 ліпеня, а ў першую суботу ліпеня. Сяту быў нададзены рухомы характар з той мэтай, каб як мага больш вернікаў мелі магчымасць прыбыць у санктуарый і ўшанаваць Маці Божую ў цудоўным абразе. Сёлета фэст прыпадае на 7 ліпеня.**

### 6 ліпеня (пятніца)

**13.00–17.00 —** сустрэча і прывітанне пілігрымаў кусташам санктуарыя
**18.00 —** святая Імша для пілігрымаў
**20.30 —** Акафіст (хор Грэка-каталіцкай Царквы)
**21.00 —** марыйныя Нешпары
**23.00 —** святы Ружанец
**24.00 —** працэсія і святая Імша

### 7 ліпеня (субота)

**02.00 —** распачынаецца моладзевая праграма ў палатачным гарадку
**02.00 —** святая Імша паводле грэка-каталіцкага абраду
**04.00 —** адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту
**05.30 —** Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі
**06.00 —** святы Ружанец
**08.00 —** святая Імша
**11.00 —** святая Імша (падчас літургіі адбудзецца малітва за асобаў, якія адзначаюць 25- ці 50-гадовы юбілей — святарства, законнага жыцця або сужэнства. Юбіляры атрымаюць спецыяльнае благаслаўленне). Выстаўленне Найсвяцейшага Сакрамэнту, працэсія.
**13.00 —** святая Імша.

*У праграме могуць быць змены.*

## Гэты цуд у будслаўскім касцёле здарыўся з Язафатам Тышкевічам, з будучым прыёрам глыбоцкага кляштара кармелітаў босых, якому было наканавана стаць першым глыбоцкім пісьменнікам, які ў 1645 годзе выдаў кнігу аб падзеях у Глыбокім[1].

**Год 1617.** У Богу вялебны айцец Язафат Тышкевіч, які цяпер служыць у святой Кангрэгацыі Айцоў Босых Кармелітаў, калі было яму 5 гадоў, цяжка захварэў па волі Божай, аслеп на абодва вокі і цэлы год нічога не бачыў. Калі ж засмучаныя бацькі яго — яго міласць Павел Тышкевіч, троцкі суддзя земскі, і яе міласць пані Цэцылія Асмольская — з вялікай надзеяй і верай у дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі[2] прывялі Язафата ў Будслаўскі касцёл, то як толькі Язафат пераступіў парог касцёла, па ласцы Божай стаў бачыць і цяпер, як жывы сведка адбыўшагася тут цуду, застаўся ў кляштары і служэннем сваім дзякаваў Усемагутнаму Богу за такое цудоўнае аздараўленне.

[1] *"Казанне айца Язафата ад Найсвяцейшай Панны з Гары Кармель, на той час прыёра Кляштара Кармелітаў Босых у Глыбокім, падчас экзеквій 13 верасня 1644 г. у Глыбоцкім касцёле годнай памяці Яго Мосці Аляксандра Тышкевіча, Полацкага Земскага Суддзі». Вільня, друкарня езуітаў, год 1645.*

[2] *Цікава, што глыбоцкі храм кармелітаў (цяпер праваслаўны сабор) называўся касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.*



■ Аляксандр Івашчонак,
бакалаўр гісторыі,
г.Нэапаль, Італія.

# Мястэчка Глыбокае

**Працяг.**
*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624), №13(625), №14 (626), №15 (627), №16 (628), №17 (629), №19 (631), 20 (632), №21(633), №22 (634) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

## Маёмасны стан глыбоцкага кляштара

Надышоў час прысьвяціць трохі нашае ўвагі маёмаснаму стану глыбоцкага кляштара Кармэлітаў Босых. Апісваючы маёнтак Кармэлітаў, перш за ўсё трэба прыгадаць той маёнтак, які манахі атрымалі ад фундатара Язэпа Корсака. Дапамогай будзе ў гэтым выпадку тэстамэнт Корсака, згодна зь якім Кармэліты атрымалі: мястэчка Глыбокае, Ластавічы, вёску Памаўшы, вёску Сайтараўшчыну, вёску Кавалі, вёску Леднікі, вёску Сэрагова, вёску Несьцеравічы, вёску Амбрасовічы, вёску Частыя, вёску Шабаны, вёску Слабодку, вёску Ясевічы, вёску Запалоўскую, вёску Гаўзгірды, вёску Запалоўе, вёску Масьцеявічы, вёску Шыпы, вёску Дзехцяры і вёску «агароднікаў», акрамя таго, Корсак запісаў Кармэлітам таксама маёнтак Перадолы з вёскамі Папковічы, Міхайлаў, Мазьнёва, вёскай Вярбілаўскай, вёскай Гарадзішча, засьценкам над ракой Масьцяніцай. У дадатак Корсак запісаў манахам таксама і трэцці маёнтак Сьвілу, Гнязьдзілава і Вальбаровічы – усё гэта Корсак аддаў Кармэлітам разам з вёскамі, зямлёй, лясамі, пушчамі, з Бабровымі Гарамі, с сажалкамі, млынамі, азёрамі, разам з усімі падуладнымі.

Безумоўна, гэта быў вельмі вялікі маёнтак, пасьля атрыманьня якога глыбоцкі кляштар Кармэлітаў Босых стаўся найбагацейшым кляштарам Кармэлітаў ня толькі ў Рэчы Паспалітай, але і ў ва ўсёй Эўропе! Манахі змаглі ня толькі добра выкарыстаць дадзеныя магчымасьці, але таксама і развіць гаспадарку глыбоцкага кляштара да такога ўзроўню, што ператварыўся ён у эканамічную магутнасьць рэгіёну й ня толькі. Напрыклад, дзякуючы ахвярам глыбоцкіх прыёраў, пасьля пажару быў адбудаваны кляштар у Чэрнай каля Кракава, два разы за глыбоцкія грошы быў адбудаваны кляштар сьв. Тэрэзы ў Вільні, а таксама Вострая Брама.

Каб лепш зразумець адкуль Кармэліты мелі на ўсе гэта грошы, трэба прынамсі ў некалькіх словах распавесьці пра гаспадарчую сістэму Кармэлітаў. А менавіта трэба зазначыць, што дзеля лепшага функцыянаваньня і развіцьця сялянскай гаспадаркі манахі ўжо ў 2-й пал. XVII ст. стварылі ў сваіх уладаньнях фальваркавую сістэму. Манахамі былі створаныя 10 фальваркаў, а менавіта:

**Першы фальварак** – Ластавічы зь вёскамі Ластавічы, Мацясы, Кавалі, Абруб, Дзехцяры, Шыпы, Запалоўе, Гаўзьдзерды[1], Бараны, Майсеёнкі, таксама з засьценкамі Востраў, Лаўрынаўка, Барэйкаўшчына. Гэты фальварак меў палацык і капліцу Пана Езуса з часоў Язэпа Корсака, меў 2 карчмы (Кавалі і Лаўрынаўка), некалькі сьвірнаў, гумнаў, хлявоў, вараўню, малачарню, скарбец, млыны: водны, валавы, ветравы тыпу "казачок", новы млын і яшчэ адзін з валюшам у Мацясах, бровар над сажалкай дзеля вырабу піва, лазьню, прачкарню. У Мацясах Кармэліты мелі таксама пчалярню з 39 вулямі.

**Другі фальварак** Амбрасовічы з вёскамі Амбрасовічы, Замошша, Леднікі і Несьцеравічы. Гэты фальварак меў драўляны палацык, крыты саломай, вараўню, 5 сьвірнаў, лядоўню, хлеў з вазоўняй, аборы, бровар дзеля вырабу піва з лазьняй, гумны, 4 адрыны, ветравы млын тыпу "казачок", пякарню і склад.

**Трэці фальварак** Каралевічы з вёскамі Каралевічы, Шабаны, Слабада і Ясевічы. Фальварак меў палацык, скарбец, склад, 3 сьвірны, вараўню, хлявы, «літоўкі» – яловыя такі, гумны, адрыны, пякарню і малачарню. Акрамя таго, меў 3 шынкі (карчмы) у Каралевічах, Слабадзе і Ясевічах.

**Чацьвёрты** – Варанова зь вёскамі Шарагі, Агурні, Несьцеравічы і Брыкеці. Гэты фальварак меў драўляны палацык, вараўню, сьвірны, лядоўню, малачарню, сырніцу, хлеў з вазоўняй, аборы, бровар дзеля вырабу піва з лазьняй, валоўню, сушылку, гумны, адрыны, ветравы млын тыпу "казачок", пякарню і склад, а таксама карчму "Агураноўка" (Ohuronówka).

**Пяты фальварак** – Сьвіла зь мястэчка Сьвіла і вёсак Сьвіла і Якубоўшчына. Гэты фальварак меў два драўляныя палацыкі і капліцу з фігурай Пана Езуса і абразом Марыі, вараўню, сьвірны, лядоўню, хлеў з вазоўняй, аборы, ток, бровар дзеля вырабу піва з лазьняй, гумны, адрыны, малачарню, ветравы млын і склад, а таксама карчму ў вёсцы Сьвіла.

**Шосты фальварак** – Перадолы зь вёскамі Перадолы, Міхалы, Гарадзішча, Кішы, Мазьнёва, Баяры, Дабрэзіна, Яловікі, Сялюты, Цыноўка, Маргі, Якубоўшчына, а таксама засьценкі Захар'яшы, Германаўшчына, Перавоз, Струг і Вусьце. Гэты фальварак меў два драўляныя палацыкі і капліцу сьв. Вэронікі, вараўню, сьвірны, лядоўню, хлеў з вазоўняй, аборы, бровар дзеля вырабу піва з лазьняй, пякарню з малачарняй, гумны, адрыны, ток, водны млын і склад, а таксама 2 карчмы, адна ў вёсцы Перадолы, а іншая – у засьценку Перавоз.

**Сёмы фальварак** – Вальбаровічы зь мястэчкам Вальбаровічы, з вёскамі Вальбаровічы, Вуглы, Зарэчык, Слабада, Востраў, Глінна, Шалахіры, Хмялёўшчына, Юраўшчына. Гэты фальварак меў два драўляныя палацыкі і капліцу Маці Божай Балеснай, вараўню, сьвірны, лядоўню, гарэлачны імбар, віндлярню, хлеў з вазоўняй, аборы, бровар дзеля вырабу піва з лазьняй, пякарню з малачарняй, гумны, адрыны, 4 такі, валавы млын і два водныя, склад, а таксама 5 корчмаў у мястэчку Вальбаровічы, вёсцы Глінна, Шалахірах, Зарэчыку і пятую пры граніцы з падкаморым Мацкевічам.

**Восьмы фальварак** – Янкі зь вёскамі Янкі, Касьцюкі, Восава, з засьценкамі Сідоры, Казіно, Козікі, Гэты фальварак меў драўляны палацык, вараўню, сьвірны, лядоўню, хлеў з вазоўняй, аборы, бровар дзеля вырабу піва з лазьняй, пякарню з малачарняй, гумны, адрыны, 2 такі, водны млын і склад, валоўню, паташню, а таксама адну карчму ў вёсцы Янкі.

**Дзявяты фальварак** – Гнязьдзілава з вёскамі Гнязьдзілава, Рубеж, Верацейкі, Далёкія. Гэты фальварак меў два драўляныя палацыкі, вараўню, скарбчык, сьвірны, лядоўню, хлеў з вазоўняй, аборы, бровар дзеля вырабу піва з лазьняй, пякарню з малачарняй, гумны, адрыны, 2 такі, водны млын і склад, а таксама адну карчму ў вёсцы Гнязьдзілава.

**Дзясяты фальварак** – Крукі з вёскамі Крукі, Вятохма, Слабада. Гэты фальварак меў драўляны палацык, вараўню, сьвірны, лядоўню, хлеў з вазоўняй, аборы, бровар дзеля вырабу піва з лазьняй, пякарню з малачарняй, гумны, адрыны, ток, ветравы млын і склад, а таксама 2 карчмы, адну ў вёсцы Калягі, а іншую – у Вятохме.

Самі фальваркі былі своеасаблівым тыпам пасяленьняў – вёскі, якія знаходзіліся і будаваліся, а таксама былі эканамічна зьвязаныя з маёнткам, дзе жыў уладальнік фальварка, з той розьніцай, што ў гэтых маёнтках Кармэліты не жылі, а толькі раз на нейкі час у маёнтак, а дакладней, у маёнткавы палац, прыяжджаў манах-эканом, які быў адказны за гаспадарку, менавіта ён правяраў работу сялянаў, як вядуцца працы, зьбіраў чынш і гд. На штодзень у маёнтку жылі асобы, якія там працавалі. Кармэліты выкарыстоўвалі гэтыя палацы як мейсца дзеля летняга адпачынку, пры палацу вельмі часта былі будаваныя капліцы і карчмы. Такая сістэма вельмі спрыяла развіцьцю вёсак, бо менавіта яны былі адной з крыніц узбагачэньня кляштара, адной, але не адзінай.

*Працяг у наступным нумары.*



**Колішняя вуніяцкая царква ў в. Кавалі, якая пабудаваная манахамі Кармэлітамі. Цяпер – праваслаўная царква.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Апісаньне Запаснога Сялянскага Складу Кармэлітаў Босых на 1810-я гг**

| Фальварак | Жыта | | | Ярыва | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | чвэрці | грыкі | гарцы | чвэрці | грыкі | гарцы |
| Кляштар Кармэлітаў у Глыбокім | 19 | 1 | 3 | 22 | 1 | — |
| Ластавічы | 21 | 2 | 8 | 161 | 4 | — |
| Амбрасовічы | 16 | 7 | 8 | 77 | 3 | 2,5 |
| Каралевічы | 9 | 3 | 1 | 144 | 3 | 7 |
| Варанова | 9 | 1 | 5 | 49 | 3 | 5 |
| Сьвіла | 33 | 2 | 2 | 155 | 3 | 8 |
| Перадолы | 62 | 4 | 2 | 259 | 3 | — |
| Вальбаровічы | 142 | 4 | 1 | 674 | — | — |
| Янкі | 13 | 1 | 1 | 99 | 2 | 4 |
| Гнязьдзілава | 51 | — | 3 | 205 | 7 | — |
| Крукі | 30 | — | — | 131 | 7 | 3 |
| У падсумаваньні на 2492 мужчынскія рэвізійныя душы | 408 | 4 | 7 | 1940 | 7 | 2,5 |

Кармэліты вельмі клапаціліся аб сваіх сялянах, таму сьпецыяльна дзеля іх, на выпадак пажару, голаду, неўрадлівасьці і гд. стварылі Запасны Сялянскі Склад, дзе было трыманае дадатковае збожжа, зьбіранае ва ўрадлівыя гады, калі збожжа было дастаткова. Гэты склад існаваў пры глыбоцкім кляштары ад часоў Напалеона. Кармэліты дзеля зьберажаньня такой вялікай колькасьці збожжа вызначылі двух складаўшчыкоў і эканома, якія сачылі за збожжам, каб яно не было пакрадзена, каб не згніло, каб ня зьелі яго пацукі і гд. Сам склад зачыняўся на тры замкі. Колькасьць збожжа заўсёды была прапарцыянальная да лічбы падуладных сялянаў.

**Апісаньне пасеваў збожжа ва ўладаньнях Кармэлітаў Босых пач. XX ст.**

| Фальварак | Збожжа | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Жыта | | | Пшаніца | | |
| | бочкі | пуры | гарцы | бочкі | пуры | гарцы |
| Кляштар Кармэлітаў у Глыбокім | 8 | 5 | 6 | — | 3 | 19 |
| Ластавічы | 35 | 3 | 8 | 3 | — | — |
| Амбрасовічы | 17 | 1 | 7 | 1 | 1 | — |
| Каралевічы | 32 | 2 | — | 2 | 2 | — |
| Варанова | 13 | 4 | — | — | 5 | — |
| Сьвіла | 12 | — | — | 1 | — | — |
| Перадолы | 39 | 3 | 22 | 2 | 1 | 12 |
| Вальбаровічы | 61 | 1 | 12 | 1 | 3 | — |
| Янкі | 24 | 4 | 9 | — | — | — |
| Гнязьдзілава | 27 | 1 | 16 | — | 1 | 12 |
| Крукі | 21 | — | — | 1 | — | — |
| **Разам** | 293 | 3 | 8 | 13 | 5 | 19 |

**Заўвагі:**

[1] Назва вёска Гаўзьдзерды гэта XIX-вечная вэрсія назвы Гаўзгірды

**Апісаньне фальваркаў і сялянаў глыбоцкага кляштара Кармэлітаў.**

**Стан маёмасьці на 1829/1830 гг.**

| Фальваркі | Хаты | Зямля: Пад фальваркамі | | Пад вёскамі | | Пад лясамі і балотамі | | Людзі: мужчыны | жанчыны | Маёмасьць сялянаў: коні | валы | каровы | цяляты | козы | авечкі | сьвіньні | гусі | куры | пчолы | Чынш: рублі | капейкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | валокі | маргі | валокі | маргі | валокі | маргі | Душы | | Штукі | | | | | | | | | вульлі | | |
| Кляштар з мястэчкам Глыбокім | 86 | 26 | 12 | - | – | – | – | 166 | 139 | 37 | - | 54 | 21 | 5 | 53 | 86 | 47 | 66 | 8 | 244 | 58 |
| Ластавічы | 127 | 10 | 12 | 79 | 24,5 | 60 | 19,5 | 398 | 406 | 394 | - | 277 | 34 | - | 394 | 303 | 229 | 517 | 52 | 532 | 93 |
| Амбрасовічы | 26 | 4 | 9 | 17 | 12,5 | 9 | 7,5 | 91 | 87 | 98 | 3 | 70 | 39 | - | 128 | 64 | 37 | 109 | 21 | 123 | 41 |
| Каралевічы | 55 | 8 | 26 | 34 | 7,5 | 17 | 14 | 204 | 219 | 174 | - | 150 | 22 | - | 216 | 143 | 88 | 284 | 14 | 246 | 1,5 |
| Варанова | 36 | 4 | 6 | 21 | 12,5 | 13 | 25 | 116 | 137 | 106 | - | 51 | 24 | - | 101 | 93 | 97 | 148 | 2 | 148 | 33 |
| Сьвіла | 34 | 5 | 6 | 21 | – | 3 | – | 96 | 97 | 112 | 1 | 58 | 18 | - | 182 | 93 | 57 | 148 | 6 | 176 | 70 |
| Перадолы | 110 | 10 | 24 | 67 | 2 | 20 | 28,5 | 366 | 378 | 311 | 6 | 218 | 71 | - | 440 | 286 | 177 | 512 | 58 | 520 | 76 |
| Вальбаровічы | 153 | 13 | 24 | 97 | 25,5 | 10 | 6 | 566 | 378 | 231 | 180 | 254 | 170 | - | 480 | 498 | 28 | 587 | 83 | 513 | 88,2 |
| Янкі | 48 | 7 | 6 | 40 | 1,5 | 5 | 19 | 166 | 175 | 66 | 87 | 72 | 44 | 30 | 231 | 171 | 2 | 270 | 41 | 237 | 63 |
| Гнязьдзілава | 55 | 8 | - | 35 | 24 | 10 | 13,5 | 212 | 213 | 66 | 80 | 74 | 59 | 34 | 221 | 363 | 8 | 308 | 22 | 232 | 75 |
| Крукі | 40 | 4 | 6 | 26 | 20,5 | 64 | 17 | 111 | 113 | 66 | 110 | 56 | 26 | - | 80 | 79 | 32 | 166 | 12 | 183 | 45 |
| Падсумаваньне | 770 | 103 | 11 | 441 | 10,5 | 216 | – | 2492 | 2533 | 1655 | 467 | 1334 | 928 | 69 | 2526 | 2179 | 802 | 3115 | 319 | 3160 | 44 |
| Маёмасьць манахаў | | | | | | | | | | *16* | *92* | *339* | *530* | - | *577* | *310* | *140* | *399* | | | |

